# Дзьве рэвалюцыі

Ёсьць гістарычны парадокс — не праўдападобны і, тым ня менш, рэальны. Парадокс гэты палягае ў тым, што Французы — народ, у якім як быццам няма нічога пурытанскага — выявілі сябе скрайнімі, радыкальна настроенымі пурытанамі ў рэвалюцыі 1789 году. Амэрыка-ж — краіна, заснаваная пурытанамі што ўцяклі з Ангельшчыны і Шатляндыі — ажыцьцявіла ў 1776-ым годзе найменш пурытанскую і найбольш чалавечную рэвалюцыю з усіх рэвалюцыяў у сьвеце.

Гэтак піша францускі пісьменьнік Раймон Брукбэргэр у сваёй новай кнізе «Амэрыканкая Рэспубліка». Гэта цікавая, разумная й дасьціпная кніга. І напісаная яна нязвычайным чалавекам. Раймон Брукбэргэр нарадзіўся ў 1907-ым годзе ў правінцыяльным гарадку Цэнтральнай Францыі. Ягоны бацька быў Аўстрыяк, маці — Французка. Маючы 22 гады, Брукбэргэр пайшоў у манастыр, стаўшыся манахам-Дамініканінам. Ён прысьвяціў сябе вывучэньню філязофіі. У 1939 годзе, калі пачалася Сусьветная вайна, ён быў пакліканы ў армію. У баі ён атрымаў дзьве цяжкія кулявыя раны ў грудзі. На полі бою яго параненага Немцы захапілі ў палон. Ён прабыў месяц у нямецкім шпіталі і, ледзь акрыяўшы ад параненьняў, уцёк з палону. Ён прабраўся на поўдзень Францыі і далучыўся да «рэзістансу», — руху супраціву. Пазьней Брукбэргэр стаўся галоўным капэлянам войска Дэ Голя.

Пасьля вайны Раймон Брукбэргэр жыў 8 год у Амэрыцы. Ён шмат падарожнічаў па Задзіночаных Штатах і добра ведае гэтую краіну. У сваёй кнізе, якая сёлета выйшла з друку, ён параўноўвае дзьве рэвалюцыі — амэрыканскую й францускую. Абедзьве гэтыя рэвалюцыі адбыліся амаль аднačасна — у канцы 18-га стагодзьдзя. На іхным сьцягу была напісаная адна і тая-ж мэта — Свабода! Але ўва ўсім іншым гэтыя рэвалюцыі розьніліся, як розьніліся іхныя правадыры. У сваёй кнізе «Амэрыканская Рэвалюцыя», у разьдзеле «Томас Джэфэрсон і Сэн-Жуст», Брукбэргэр піша:

«Дзеля таго, каб зразумець тую ці іншую рэвалюцыю, трэба бачыць ня толькі ейныя прынцыпы, але, галоўнае, людзей, якія праводзілі яе. Джэфэрсон лепш за ўсіх увасабляе амэрыканскую рэвалюцыю. Ягоны ідэял — найвышэйшай ступені рэвалюцыйны — палягаў у тым, каб паставіць урад, усе ўстановы і законы на службу людзям. Яму супрацьставіцца іншы тып рэвалюцыянэра — які імкнецца падпарадкаваць людзей ідэялу рэвалюцыі. Як Джэфэрсон быў тэарэтыкам і адным з творцаў амэрыканскай рэвалюцыі, так Сэн-Жуст быў тэарэтыкам і адным з творцаў францускай якабінскай рэвалюцыі. Джэфэрсон напісаў Дэклярацыю Незалежнасьці, быў законадаўцам і прэзыдэнтам маладое амэрыканскае Рэспублікі. Сэн-Жуст дамогся пакараньня сьмерцю караля Людвіка XVI; ён быў, як гаварылі, «Архангелам тэрору», пакуль сам ня зьгінуў на эшафоце».

Брукбэргэр адзначае далей, што Джэфэрсон, Адамс, Мэдысон і іншыя дзеячы Амэрыканскай Рэвалюцыі ўжо былі знаёмыя і з самакіраўніцтвам, ужо ўмелі карыстацца палітычнай свабодай. Французы-ж павінны былі заваяваць свабоду, якое яны датуль ніколі ня ведалі. Таму Француская Рэвалюцыя мела разбуральны і аднačасна рамантычны характар. Да палітыкі дамешвалася містыка. Брукбэргэр піша:

«Які галоўны прынцып Містыкі? Сьвяты Ян Крыжы, вялікі гішпанскі містык, выказваў гэта ў двух словах: «Тодо і Нада» — «Усё або Нічога». Гэта — прынцып утопіі, прынцып 'Табуля раса'».

Дзеячы Францускай Рэвалюцыі не задавольваліся каштоўнымі, але палюдзку абмежаванымі дасягненьнямі палітычнай свабоды. Яны былі ап'янелыя ідэяй поўнай перабудовы грамадзтва, дзе Розум — упяршыню ў гісторыі — кіраваў-бы лёсам людзтва. Паводля якабінцаў, рэвалюцыйная ўлада павінна была гвалтам весьці людзей па шляху сацыяльнага прагрэсу. Не такое заданьне ставілі перад сабой дзеячы Амэрыканскай Рэвалюцыі. Брукбэргэр піша:

«Джэфэрсон адчуваў інстынктам і ўсьведамляў розумам увесь жах прынцыпу «Усе або нічога» ў палітыцы. Ён ня быў утапістым. Ён ня быў прыхільнікам ,Табуля раса', чыстай дошкі» — прынцыпу, які вымамае разбурыць увесь сьвет да шчэнту, а затым на голым месцы будаваць «новы сьвет». Не, Джэфэрсон быў рэвалюцыянэрам зь яснай галавой і практычным чалавекам, што жадаў разьвіцьця свабоды. Якая вялізная адлегласьць паміж ім і пурытанамі Новай Англіі! . . . Джэфэрсон знаў, што ўсё людзкое заўсёды часовае, нятрывалае, адноснае. Ён знаў, што ягоная бацькаўшчына — ня «табуля раса», ня «чыстая дошка», ня «голае месца», і што калі разбурыць дашчэнту старое жыльлё пакуль ня будзе пабудаваны новы дом, дык можна апынуцца пад адкрытым небам, ня толькі пад пагрозай дажджу і сьцюжы, але і ў небясьпецы ад зладзеяў і разбойнікаў. Джэфэрсон разумеў, што ў людзкіх справах усякая спроба раптоўна дамагчыся дасканаласьці можа стварыць пусьціню, у якой адбываюцца жахлівыя вар'яцтвы. Калі не дасягнуць Усяго, стварaць Нішто — тады ў гэтай атмасфэры нігілізму расьцьвітае тыранія, якая вымагае людзкіх ахвяраў. Характэрна, што з усіх сучасных рэвалюцыяў толькі Амэрыканская Рэвалюцыя не паддалася нігілізму, вар'яцкай містыцы 'Усяго, або Нічога'. Уводжаньне містыкі ў палітыку, прынцып 'усё або нішто' вядзе проста да 'голага месца', да нігілізму — таталітарны ўтапізм руйнуе чалавека дашчэнту«.

Тварцы Амэрыканскай Рэвалюцыі, — гаворыць Брукбэргэр, — зразумелі, што ўсякі, навет найлепшы ўрад — гэта неабходнае зло і што ўрад павінен рабіць ня больш, чымся гэта патрэбна дзеля ўтрыманьня грамадзкага парадку і нацыянальнай бясьпекі. Джэфэрсон, Адамс, Мэдысон ня ставілі перад сабой утапічных заданьняў. Брукбэргэр піша:

«Дэклярацыя Незалежнасьці не зьмяшчае ў сабе нічога ўтапічнага. Яна не заклікала да разбурэньня ўсяго сьвету дашчэнту і да пабудовы новага, як гэта рабіла якабінская рэвалюцыя. Наадварот, яна была сьціраваная на тое, каб падтрымоўваць, разьвіваць, ажыцьцяўляць традыцыйную філязофію палітычнай свабоды, што бярэ свой пачатак у грэцкай мудрасьці, рымскім праве, юдэя-хрысьціянскім адкрыцьці. . . . У Амэрыканскай Рэвалюцыі жыцьцё наагул і людзкое жыцьцё ў прыватнасьці, роўнасьць усіх людзей, поўная людзкая свабода — усё гэта прызнаецца ад самага пачатку, як нешта, дадзенае Богам.

Божы дар — гэта сьвяты і непарушны дар. І гэтыя правы чалавека — права на жыцьцё, свабоду, роўнасьць — ня могуць аспрочвацца нікім. Яны азначаюць не канец, а пачатак гісторыі, і яны служаць маякамі ў гістарычным разьвіцьці. Гэтыя маякі стаяць — імі трэба кіравацца. Дэклярацыя Незалежнасьці, такім чынам, ускладае на плечы кажнага чалавека поўную адказнасьць за лёс, ня толькі за асабісты лёс чалавека, але ўсіх людзей, за ход гісторыі.

Вось памойму, што становіць асноўную розьніцу Амэрыканскай Рэвалюцыі ад якабінскай, а таксама й ад марксыцкай рэвалюцыі. Камуністыя таксама гавораць аб свабодзе й роўнасьці. Але ў іхным разуменьні свабода й роўнасьць павінны прыйсьці ў выніку рэвалюцыі. Як быццам-бы ў канцы яе. Гэта — прыпушчальны, гістарычны вынік, таму што ніхто не гарантуе, што свабода і роўнасьць урэшце зьявяцца. У чаканьні давяршэньня рэвалюцыі чалавеку прапануецца прамяняць сваю свабоду, сваё права на роўнасьць і братэрства, сваё жыцьцё і гонар, — усё гэта прамяняць на абяцаньне нейкага будучага шчасьця, аб якім мы ня ведаем, ці будзе яно ці не. У чаканьні выкананьня абацаньняў, рэжым дыктатуры павінен быццам-бы ажыцьцявіць справядлівы парадак, зь якога народзіцца 'новы чалавек'. Тады, быццам-бы, і адбудзецца скачок з 'валадарства неабходнасьці ў валадарства свабоды'. Але хто можа даць заруку, што да таго часу свабода ня будзе забытая й што ня будзе нават страчанае імкненьне да свабоды?»

**Х.**



# Зь вялікай хмары малы дождж

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

свой козыр для прапагандовых мэтаў, заўсёды былі супраць такой кантролі на сваей тэрыторыі, якая поўнасьцю гарантавала-б перад ашуканствам.

Літаральна такое-ж разьзбраеньне запрапанаваў Хрушчоў і цяперака. У сваім выступленьні перад Задзіночанымі Нацыямі ён выразна й неаднакратна падчыркнуў, што Саветы згаджаюцца і на поўную кантролю разьзбраеньняў, але толькі пасьля іхнага заканчэньня. Калі-ж дапусьціць поўную кантролю ваенных станаў і аб'ектаў чужой дзяржавы яшчэ перад заканчэньнем разьзбраеньняў, — аргумэнтаваў Хрушчоў — дык такая кантроля можа быць выкарыстаная для мэтаў ваеннага шпіянажу тымі партнэрамі, якія ў запраўднасьці разьзбройвацца ня думаюць. Калі пераладжыць гэтую хрушчоўскую дыялектычную сафістыку на звычайную мову, дык яна гучэла-б прыблізна гэтак: вы, наіўнякі, разьзбройвайцеся сабе, а мы трохі пачакаем, пакуль вы не разьзброіцеся зусім, а тады пагаворым з вамі іншай мовай!

Ня глядзячы на тое, што высунуты Хрушчовам праект быў пастаўлены на парадак дня цяперашняй сэсіі Задзіночаных Нацыяў ён расцэньваецца, як непаважны й вылучна прапагандовы трык савецкай прапаганды. Ды іначай расцэньваць яго й нельга.

Другім канкрэтным сфармуляваньнем хрушчоўскіх пастулятаў была справа Бэрліна. Як гаворыцца ў супольным камунікаце, Айзэнгаўэр і Хрушчоў згадзіліся, што ў пытаньні Бэрліна «павінны быць прадпрынятыя далейшыя перагаворы з мэтаю дасягнуць такую разьвязку, якая адказвала-б інтарэсам усіх зацікаўленых бакоў і служыла-б захаваньню міру». Наступнага дня пасьля абвешчаньня камунікату прэз. Айзэнгаўэр на сваёй прэсавай канфэрэнцыі асьветчыў, што дагаварыўся з Хрушчовам аб тым, што перамовы ў бэрлінскім пытаньні ня будуць абмежаваныя ў часе. Айзэнгаўэр дадаў, што гэта зьяўляецца важным фактарам у ягонай згодзе прыняць удзел у канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні. Хрушчоў, аднак, удакладніў гэтае асьветчаньне Айзэнгаўэра, заявіўшы агенцтву ТАСС адразу пасьля свайго павароту ў Маскву: «Мы ўзапраўды дасягнулі пагадненьня, што павінны быць узноўленыя перагаворы ў бэрлінскім пытаньні, што для іх ня могуць быць згары вызначаныя межы часу, аднак-жа яны ня могуць працягвацца ў бесканечнасьць.» Гэтая апошняя засьцярога Хрушчова, што дыпляматычныя гутаркі ў справе Бэрліна «ня могуць працягвацца ў бесканечнасьць», у любы мамэнт можа разьвязаць Саветам рукі.

Напасьледак, гэтыя мізэрныя ўступкі ў бэрлінскім пытаньні, якія нічога ня вырашаюць, а толькі справу на нейкі час адцягваюць, ня былі ніякім джэнтэльмэнскім жэстам Хрушчова, але ляжалі ў ягоным собскім інтарэсе. Стаўляючы перад гэтым ультыматыўныя патрабаваньні й зрываючы з гэтае прычыны Жэнэўскую канфэрэнцыю чатырох міністраў замежных справаў, Саветы разьлічвалі на тое, што пад ціскам іхных станоўчых патрабаваньняў і няскрываных пагрозаў ды палітычнага шантажу Захад у бэрлінскім пытаньні скапітулюе. Калі-ж дзякуючы непахіснай пазыцыі Амэрыкі, Захад савецкага вызаву не спалохаўся й выказаў наважанасьць бараніць свае правы ў Бэрліне навет збройнымі сіламі, Хрушчоў апынуўся ў вельмі нявыгадным становішчы. Ажыцьцявіць сваіх ультыматыўных пагрозаў не адважваўся, пераканаўшыся, што Амэрыка тут не жартуе, а пайсьці пасьля такіх станоўчых пагрозаў на ўступкі, абазначала-б прызнацца да сваей собскай слабасьці.

Дзеля гэтага Хрушчоў знайшоў сабе добры выхад зь бязвыхаднай перад гэтым сытуацыі, калі ў заінсцэнізаванай ім атмасфэры прыязьні й добрае волі падчас гутарак з Айзэнгаўэрам запэўніў апошняга, што пытаньне Бэрліна мусіць быць разьвязанае шляхам узаемных перагавораў і што час гэтых перагавораў ня будзе абмежаваны якімсьці канкрэтным тэрмінам. Такім чынам Хрушчоў знайшоў добрую нагоду зрабіць канечны для яго шаг назад і пры гэтым захаваць свой твар. Можна быць стапрацэнтна пэўным, што калі-б Амэрыка ў пытаньні Бэрліна ня выказала столькі станоўчасьці й цьвёрдай наважанасьці бараніць у ім сваіх правоў сілай ды прыняла капітулянцкія парады Вялікабрытаніі, дык Хрушчоў цяпер напэўна не зрабіў-бы гэтага, хоць і вельмі-ж сьціплага, прэзэнту Айзэнгаўэру.

Такім чынам амэрыканская візыта Хрушчова ніякіх прынцыповых зьменаў між Усходам і Захадам ня прынесла наўсуперак спадзяваньням многіх аптымістых і капітулянтаў у вольным сьвеце. Уся заходняя прэса, якая сытуацыю ацэньвае цьвяроза й аб'ектыўна, а не паводля сваіх собскіх зычэньняў, аднагодна цьвердзіць, што пасьля паездкі Хрушчова ў Амэрыку халодная вайна не закончылася, а толькі наступіла перамір'е. А перамір'е, як ведама, звычайна робіцца ня толькі для мірных, але й для агрэсыўных мэтаў. Няма сумлеву, што галоўна гэтым быў выкліканы й адклад рэвізыты Айзэнгаўэра ў Маскву, якая, замест сёлетняй восені, мае адбыцца толькі вясной наступнага году.

Агульны вынік адведзінаў Хрушчова ў Амэрыцы найлепей сфармуляваў уплывовы амэрыканскі сэнатар з Дэмакратычнае партыі Фульбрайт. Пасьля гутаркі з Хрушчовам ён асьветчыў: **«Вынік ёсьць той, што Захад яшчэ мацней, чымся перад гэтым, павінен зброіцца»!**

**Язэп Каранеўскі**



**В. ПАНУЦЭВІЧ** 3)

# Плян Агінскага у 1811 г. аб узнаўленьні Вялікага Княства Літоўскага

### Расейская палітычная гульня

Лёс «Уставы В.К.Л.» быў такі самы, як і «ўказу»: стаўся толькі праектам і больш нічога. Не таму, каб праект гэты быў адхілены Аляксандрам, не. Цар ня выказваўся станоўка ні туды ні сюды. Настроі вузканацыяналістычныя пецярбурскага двара засланялі ўсякія рэформы. Пачаліся нападкі на Спэранскага, які ў сакавіку 1812 г. быў зьняты з пасады міністра нутраных справаў, а справа рэарганізацыі імпэрыі была спынена.

А тымчасам вайна з Напалеонам набліжалася й станавілася пэўнай. Цар ня ведаў, што рабіць, узнаўляць Літву ці тварыць Польшчу. Супраць тварэньня Літвы была апінія расейскіх нацыяналістых з Карамзінам на чале. Ведаў аб гэтым Агінскі й яго супрацоўнікі яшчэ ў ходзе падрыхтоўкі ў «літоўскай» справе. Таму яны апрацавалі таксама іншы праект на ўсякую эвэнтуальнасьць, пайменна праект «канстытуцыі польскага каралеўства». Гэты праект Агінскі прадставіў цару ў палавіне сьнежня 1811 г. і заахвочваў яго, каб абвесьціўся «польскім каралём», пакульшто ў Вільні, вызначаючы межы з 1772 г. І з гэтага таксама нічога ня выйшла.

### Вялікі зьезд у Менску

Злажыўшы ўсякія пляны Аляксандру, група Агінскага правяла ў канцы 1811 г. зьезд у Менску тагачасных магнатаў з розных партыяў. На зьезьдзе былі: Адам Храптовіч, Прозар, Ваўрэцкі, Салтан, Белапятровіч, Равускі, Тызэнгаўз і іншыя. Падробнага апісаньня зьезду няма ў крыніцах, ведама толькі, што прайшоў ён аднадумна ў карысьць плянаў Агінскага. Наша магнатэрыя згодная была на абедзьве эвэнтуальнасьці, узнаўленьне Літвы ці Польскага Каралеўства, каб толькі атрымаць большую свабоду. На зьезьдзе аднак былі галасы, каб, узнаўляючы літоўскае войска пад Аляксандрам, ня стацца прычынай змаганьня з войскам Княства Варашаўскага, «братабойчай» вайны. Большасьць была крыху іншага пагляду, пайменна, што Палякі, расчараваныя ў палітыцы Напалеона, самі далучацца да Вялікага Княства Літоўскага, што ўзмоцніць становішча Літвы. Што датычыць настрояў шляхты, то, як сьцьвярджае Івашкевіч («Літва», 58): «псыхіка шырокіх масаў шляхоцкіх на Ліцьве й Русі (зн. Украіне) была хутчэй абыякавая да актуальных палітычных пытаньняў».

### Канстытуцыя Вялікага Княства Літоўскага

Не дачакаўшыся абвешчаньня царом «указу» — Агінскі з сваёй групай (найбольш актыўны кн. Друцка-Любэцкі) выпрацаваў і сам праект канстытуцыі В.К.Л., які назваў «Дзяржаўная Устава Вялікага Княства Літоўскага». З зацемак Казімера Плятара вынікае, што накід канстытуцыі ўжо быў гатовы перад паездкай Агінскага на бацькаўшчыну (22 верасьня 1811) ды на аснове яго вяліся гутаркі ў Шаўлях.

8 лютага 1812 г. Агінскі паведаміў цара Аляксандра, што падрыхтаваўчая праца закончана. Яна, як ведаем, цягнулася ад травеня 1811 г. ды мела характар нарастаньня штораз сьмялейшых пастулятаў.

Праект канстытуцыі В.К.Л., зложаны цару, зьмяшчаў 266 артыкулаў у X разьдзелах. У васноўным відавочны ўплыў Канстытуцыі 3-га травеня 1793 г. з адхіленьнямі, якія лучыліся з новымі абставінамі. Сойм меў складацца зь дзьвюх палатаў Сэнату і Паслоў. Да Сэнату належалі-б вышэйшыя дастойнікі так сьвецкія, як і духоўныя, а да Паслоў — 160 дэлегатаў ад шляхты й 80 ад местаў, выбіраных на 6 гадоў у вадной траціне што 2 гады. «Канстытуцыя» прадбачвае моцны ўрад ды адкідае старую выбарную сыстэму. Прадстаўнікі ўраду паходзілі-б з намінацыі Вялікага Князя. Шосты разьдзел «Уставы» прадбачваў самаўрад Радам Ваяводзкім і Павятовым у галіне адміністрацыі й падаткаў. Сойм меў пастанаўляць толькі аб агульным кантынгеньце падатку.

Цікава вырашалася ў праекце «Уставы» сялянскае пытаньне. Арт. 24 гучэў: «Хочучы дагадзіць з аднаго боку ідэялам адвечнай справядлівасьці, правом рэлігіі і чалавецтва, а з другога, каб забясьпечыць перад шкоднымі вынікамі злоўжываньня, якое можа выклікаць замяшаньне публічнае, пастанаўляецца, што люд вясковы ў Вялікім Княстве Літоўскім пражываючы, у працягу дзесяці гадоў будзе дапушчаны да карыстаньня з права асабістай свабоды. Пачынаючы ад 1812 г. да 1821 г. штогод у кажным маёнтку звальняцца будзе дзесятая частка сялян іхнімі панамі. Із зволненымі рабіцца будуць умовы із згодай абедзьвюх старонаў, і гэтыя ўмовы будуць брацца пад ахову права і ўраду, так што ня могуць быць нарушаныя ані панам, ані яго наступнікамі ці пераймальнікамі, ані сялянамі ў самавольным парадку. У маёнтках скарбовых, будучых у дзяржаньні, звальненьне вышэйсказанае праводзіцца будзе дзяржаўцамі, а кажнае такое звальненьне будзе пацьверджанае міністрам скарбу».

Прадбачанае канстытуцыяй скасаваньне паншчыны ставіць іх аўтараў, гэта значыць вярхі нашага тагачаснага магнацтва з Агінскім на чале, на пачэсным месцы, як паступовых і здаровых палітыкаў. У гэтых дачыненьнях яны выпярэдзілі напалеонаўскае і заходняэўрапэйскае законадаўства. Час 10-летні — нядоўгі, меў паступова, бяз большых ломак і шкодаў зьліквідаваць сялянскае гора. Ведама, самае скасаваньне паншчыны безь зямельнай рэформы —гэта толькі поўсяродак у палепшаньні сялянскай долі, але з пункту гледжаньня права — гэта пачатак адраджэньня нашага народу: выхад найбольшай грамадзкай групы да ўдзелу ў публічным жыцьці.

### Ацэнка Палякаў пляну Агінскага

Спадзяваньні групы Агінскага й большыні нашых паноў на тое, што ў выпадку абвешчаньня самастойнасьці Літвы ці навет «Польскага Каралеўства» ў Ліцьве будзе пачаткам далучэньня Польшчы да Літвы дзеля вялізарнага незадаваленьня з Напалеона — ня зусім адказвалі рэчаіснасьці. Разбуджаны польскі нацыяналізм, міма непаводжаньняў у калябарацыі з Напалеонам, ненавідзеў Расеі ды не хацеў чуць аб наймен-

# Кастусь Каліноўскі ў савецкім асьвятленьні

Днямі давялося прачытаць у «Зьвязьдзе» аб тым, што ў Маскве выйшла новая кніга пра Кастуся Каліноўскага А. Сьмірнова. Кнігу хваляць і лічаць апошнім сказам марксісцка-ленінскай гісторыяграфіі, і значыцца яна выражае савецкую канцэпцыю ў стварэньні вобразу выдатнага беларускага гэроя.

Мы, праўда, ня чыталі кніжкі, але ўжо тое, што яна выдана ў **Маскве, расейскім аўтарам і на расейскай мове,** змушае аднесьціся да яе вельмі **насьцярожана,** паколькі мы добра ведаем, што гэта значыць. Калі-ж пазнаёмімся з рэцэнзіяй на кніжку ў «Зьвязьдзе», дык усё робіцца дастаткова ясным. Кастусь Каліноўскі паказваецца ў кніжцы верным пасьлядоўнікам Чарнышэўскага й Герцэна, ён цалкам салідараваўся з расейскімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі, быў зьвязаны з расейскай «Зямлёй і Воляй» і яе праграмай. Болей таго — сказана, што Кастусь Каліноўскі меў і **інтэрнацыяналістычныя** мэты, падыймаючы паўстаньне. Мэты аб адзінстве дзеяньняў **расейскіх і беларускіх паўстанцаў...** Далей можна і ня чытаць. У нашу тэму не ўваходзіць спрачацца з аўтарам кніжкі і рэцэнзэнтам «Зьвязды».

Каб скласьці сабе запраўдны вобраз Каліноўскага, іншы раз дастаткова бывае ўспомніць аб газэце «Мужыцкая Праўда» ды аб лісьце Каліноўскага з турмы. Там Каліноўскі выступае зусім не на асновах марксісцка-ленінскай навукі, ня йдзе ані на руку Расейцам, ані робіцца інтарнацыяналістым. Быў час — дваццатыя гады на Беларусі, калі К. Каліноўскага й ягоную справу паказвалі праўдзіва, калі постаць Каліноўскага й ягоныя чыны служылі й натхнялі беларускі адраджэнскі рух. Тады волата беларускай нацыянальнай справы бралі дзеля адлюстраваньня ўсе галіны беларускага мастацтва й іхныя майстры. Яшчэ многія памятаюць як трыўмфальна йшла ў Першым Дзяржаўным тэатры п'еса «Кастусь Каліноўскі» — Міровіча, дзе галоўную ролю выконваў таленавіты актор І. Крыловіч; як прываблівай вочы малюнак мастака Волкава «Кастусь Каліноўскі», дзе правадыр паўстаньня на фоне зімовага беларускага пэйзажу, акружаны простымі сялянамі, заклікае ўсіх да вызвольнага змаганьня з панам і маскалём; як набываў любоў і папулярнасьць фільм «Кастусь Каліноўскі» рэжысэра Гардзіна. Міровіч, Крыловіч, Волкаў, Гардзін і шмат іншых мастакоў розных галінаў мастацтва стварылі незабыўныя вобразы Каліноўскага, бо яны **ведалі, што стваралі,** бо яны **жылі сэрцам** з сваім гэроем, зь сялянамі — паўстанцамі, бо ім **была дарагая й кроўная** тая тэматыка, якая выходзіла з-пад іх таленавітых рук.

Але такі Каліноўскі быў небясьпечны савецкай уладзе, і разам з разгромам нацыянальнага беларускага руху бальшавіцкі тэрор паставіўся супраць і вобразу Каліноўскага. Яго абвесьцілі гэроем **буржуазнага нацыяналізму.** Былі зьнятыя з экрану і із сцэны фільм і п'еса «Кастусь Каліноўскі», выкінуты малюнак Волкава. Дайшло да таго, што навет змусілі Якуба Коласа ў «вадкрытым лісьце» паставіцца супраць постаці гэраічнага змагара сялянскага беларускага паўстаньня 1863 г.

З тае пары на доўгія гады Кастусь Каліноўскі зьнікае зь гісторыі, крытыкі й мастацтва БССР, крануць гэтую тэму ўжо ніхто не адважваецца.

Толькі незадоўга перад 2-ой сусьветнай вайной сталі рабіцца спробы выцягнуць з забароненага архіву і постаць Каліноўскага. Аўтару гэтых радкоў і пісьменьніку М. Клімковічу быў зроблены заказ на складаньне опэры «Кастусь Каліноўскі». Лібрэтысту далі дазвол карыстацца і сакрэтным фондам ЦК партыі, дзе была ўся літаратура аб Каліноўскім, што хавалася ад простых сьмяротных. Праца **йшла аднак даволі цяжка, бо Клімковічу даводзілася амаль што кажны ўрывак паказваць кантралёрам** з ЦК. Можна было думаць, што й там у вышэйшых сфэрах азначанай канцэпцыі што да Кастуся Каліноўскага яшчэ ня існавала. Вайна спыніла гэтую працу, якую Клімковіч, аднак, аднавіў адразу пасьля сканчэньня ваенных дзеяў, толькі ўжо з кампазытарам Лукасам. Опэра пісалася цяпер хуткімі тэмпамі, бо тэатр закантрактаваў яе да паказу на 30-ыя ўгодкі кастрычніка — 1947 году.

«Кастусь Каліноўскі», нарэшце, выйшаў на опэрную сцэну. Нам, нажаль, не давялося ўбачыць і паслухаць гэтага твору, але ведаем, што пасьля колькіх спэктакляў яго **зьнялі із сцэны.** Крытыка наракала на адсутнасьць драматургічнасьці дзеі, на слабасьць характарыстыкі галоўнага гэроя і недасканалую мастацкасьць твору. Опэру не ўратавалі ані паслухмянасьць партыйнаму заказу лібрэтыстага, ані спроба яго і кампазытара павязаць, палагодзіць і, навет, мірна спалучыць інтарэсы маскоўскага войска й сялян Каліноўскага, для чаго была ўведзена ў опэру расейская песьня «Ночанька», якая сэнтымэнтальна гучэла ў вуснах маскалёў і павінна была, пэўна, падкрэсьліць іх добры характар і настрой ды «сяброўскія пачуцьці» да беларускіх паўстанцаў (?). Гэта быў першы правал намераў прадставіць тэму Каліноўскага паводля партыйных марксісцка-ленінскіх рэцэптаў. Опэра Лукаса — Клімковіча й дагэтуль ляжыць у архіўным пылу ў тэатральнай бібліятэцы. Што іншага можна было чакаць ад вульгарнай канцэпцыі й таго-ж вульгарнага выкананьня?

Далей адлюстраваньне вобразу Каліноўскага ў беларускім мастацтве заглухае на колькі год, аж да часу падрыхтоўкі да 40-гадовага юбілею кастрычніка, калі прамінуць гістарычнага беларускага нацыянальнага змагара было ўжо нявыгадна перад грамадзкасьцю. Тут урадавыя кіраўнікі ўспомнілі пра п'есу Міровіча «Кастусь Каліноўскі» і далі загад саюзу пісьменьнікаў яе прычасаць і падрабіць пад свае партыйныя густы. У пачатку 1957 году выйшаў з друку зборнік п'есаў Міровіча, дзе зьмешчана была й п'еса «Кастусь Каліноўскі». Хто чытаў гэты новы варыянт п'есы, зьдзівіўся-б яе перакручанасьцю, няёмкасьцю й нахабнай прыстасаванасьцю. Рэцэнзэнт Есакоў у прадмове тлумачыў адсутнасьць п'есы на беларускай сцэні і неабходнасьць іншай рэдакцыі тым, што нібы Міровіч парушыў у ранейшым варыянце гістарычныя дадзеныя і ня меў тады яшчэ трывалых падставаў схарактарызаваць вобразы Каліноўскага й Серакоўскага, на якіх цяпер існуюць новыя «дакладна — навуковыя» пагляды. Міністар культуры БССР з трыбуны і ў друку дакляраваў і даў абяцаньне ў гэтым новым выглядзе паставіць п'есу Міровіча ў тэатры. Аднак у краіне, дзе пануе каньюнктура і высокае кіраўніцтва часьцей за ўсё займаецца манаю, і ў савецкай інтэрпрэтацыі п'еса Міровіча **не пайшла** ані ў дні сьвяткаваньня юбілею, ані пазьней. Праўдападобна й новая рэдакцыя не задаволіла партыйныя колы, ня была стопрацэнтна прапагандовай.

Тэму Каліноўскага, між іншым, адкласьці было нявыгадна, бо ў пачатку 1959 году БССР мусіла сьвяткаваць свой уласны 40-гадовы юбілей існаваньня. Саюз пісьменьнікаў і Міністэрства Культуры прапанавала гэтую тэму для распрацоўкі маладым аўтарам, выхаванкам савецкае ўлады. Што атрымалася тут, мы можам судзіць толькі паводля зацемак і бягучага матарыялу ў рэспубліканскай беларускай прэсе, аднак і гэтага можа быць дастаткова. На сэкцыі драматургаў у траўні 1958 году прачыталася п'еса «Кастусь Каліноўскі» Дуброўскага. Вынікі былі адмоўныя, п'еса не падабалася бальшыні з прысутных і была зьвернута аўтару для карэннай перапрацоўкі. Тады ў артыкуле крытыка й драматурга Рамановіча зьяўляецца даведка, што маладыя пісьменьнікі Раманаў і Клаз удала працуюць над п'есай «Кастусь Каліноўскі». Неўзабаве ў верасьні 1958 году паяўляецца зацемка, што гомельскі тэатр прыняў да пастаноўкі п'есу Раманава й Клаза. Можна было меркаваць, што юбілей будзе сустрэнуты п'есай «Кастусь Каліноўскі», хоць у вадным тэатры. Але й гэтага ня сталася. Мы, нажаль, ня ведаем засакрэчаных плянаў у кабінэтах ЦК партыі, але факт астаецца фактам. што п'еса не **пайшла ані ў дні сьвята, ані дагэтуль.**

**Мімаволі напрашваецца пытаньне:** чаму той Каліноўскі, якога абвінавачваюць у нацдэмаўскіх грахох, гэтак яскрава, маляўніча, выразна, таленавіта, з запраўднаю мастацкаю прыгажосьцю гучэў на сцэнах і эстрадах, цешыў вока ў кіно на экране і ў галярэі жывапісу? І чаму Каліноўскі ў савецкай канцэпцыі ня лезе нікуды, ані ў вадну галіну мастацтва й сутычка майстроў з такім «савецкім Каліноўскім» вядзе да творчай паразы, да эрзацу й хаўтуры. Адказ, думаем, знойдзе кажны разумны чалавек. Дастаткова толькі прыкрануцца да ленінска-хрушчоўскай «тэорыі» мастацтва, як адразу-ж зьнікае і мастацкая прыгажосьць і самое мастацтва. Такі закон, праверaны ўва ўсім часе існаваньня савецкай улады. Посьпехі савецкіх выканальнікаў за граніцаю ня толькі ня выходзяць з правіла, але, наадварот, пераканальна сьцьвярджаюць нашае палажэньне, бо ўсе гэтыя посьпехі яскрава выражаюць дзейнасьць старых школаў і традыцыяў, вучобу ў старых пэдагогаў і майстроў, старых тэорыяў мастацтва і мастацкіх ідэялаў, дзе адно з галоўных месц займае пытаньне **нацыянальных асаблівасьцяў і своеасаблівасьцяў.** Звольніце беларускае мастацтва ад савецкага ярма і яно заблішчыць усімі хварбамі нацыянальнай прыгажосьці. Тады і вобраз Кастуся Каліноўскага займе сваё высокае становішча ў беларускім мастацтве, якое яму належыцца паводля права й справядлівасьці.

**Мікола Куліковіч**

# Катастрафальная гаспадарка

Сакратар ЦК КП Беларусі Мазураў у сваім дакладзе на XXIII партыйным зьезьдзе «Аб кантрольных лічбах разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР на 1959-65 гады» зьвярнуў увагу на ганебнае становішча ў галіне вытворчасьці бульбы ўва ўсёй рэспубліцы. Ды й сам Хрушчоў, будучы ў Менску, таксама зьвярнуў увагу камуністычных кіраўнікоў Беларусі на нізкія ўраджаі бульбы ў калгасах і саўгасах. Запраўды нізкія. На працягу апошніх пяці гадоў ураджай бульбы ў калгасах ня перавышаў 80 цэнтнараў з гэктара. Ніжэй чым да вайны. У мінулым годзе Беларусь ня выканала пляну здачы бульбы дзяржаве з прычыны нізкіх збораў. У калгасах і саўгасах менш чым на палавіну было засыпана бульбы на насеньне. У мінулым годзе засталося больш 165 тысяч гэктараў няперааараных бульбянішчаў, у выніку чаго ў зямлі засталося ня менш 2 тон бульбы на гэктар.

Вясною бягучага году ў бальшыні калгасаў бульба была пасаджана моцна заніжанымі нормамі. Калі зімою адкрылі капцы на Магілёўшчыне, то ў некаторых калгасах каля 30 працэнтаў клубняў загінула ад мокрай гнілі. З такімі насеннымі рэсурсамі быў спатканы 1959 год.

Трэба адзначыць, што гэты год на Беларусі выдаўся засушлівым. Ураджай усіх культур нізкі. Пасьля доўгіх веснавых халадоў пачалося гарачае лета. Клубні бульбы слаба разьвіваліся і ўжо ў канцы лета, калі прайшлі дажджы, на карнявішчы ўзьніклі новыя клубні.

Аднак уборка й гэтага мізэрнага ўраджаю бульбы ў калгасах і саўгасах Беларусі праходзіць вельмі марудна. На 15 верасьня выканана толькі 12,4 працэнтаў пляну. Як і ў мінулыя гады бульба выбіраецца пераважна ўручную. Расхваленая магутная тэхніка пры ўборцы бульбы ня выкарыстоўваецца. А між іншым калгасы й саўгасы Беларусі маюць каля 5 тысяч бульбакапальных камбайнаў. Паводля падлікаў, толькі камбайнамі можна штодзённа выбраць 15-16 тысяч гэктараў бульбы. Чаму-ж тады калгасы ня ўжываюць тэхнікі? Справа ў тым, што гэтыя камбайны маюць шмат тэхнічных недахопаў: пакідаюць шмат бульбы ў зямлі, 8-10 працэнтаў клубняў машынаю псуецца, камбайны патрабуюць вялікае колькасьці работніцкіх, часта псуюцца і г. д.

Уборка бульбы ў гэтым годзе пры нізкай ураджайнасьці праводзіцца яшчэ горш, чымся мінулыя гады. Таму ЦК КП Беларусі і савет міністраў БССР прымушаны былі 19 верасьня выдаць спэцыяльную пастанову «Аб правядзеньні ўборкі й закупак бульбы ў калгасах і саўгасах рэспублікі ў 1959 годзе. Пастанова доўгая, займае, амаль палову газэтнай бачыны, нудная зьместам. Як і ў мінулыя гады, калгасы й саўгасы абвінавачваюцца, што ня ўжываецца на ўборцы тэхніка. Прыпамінаецца, што ў мінулым годзе машынамі выкапана толькі 10 працэнтаў пасеваў бульбы. У пастанове з націскам падкрэсьліваецца неабходнасьць дасканалага збору ўліку выбранай бульбы, бо ўжо маюць месца факты заніжэньня збору бульбы пры захаваньні ў бульбасховішчы. Яшчэ толькі пачалася ўборка бульбы, а ўжо пастанова адзначае факты раскрадваньня.

У пастанове ЦК КП Беларусі і Савет міністраў БССР патрабуе ад калгасаў і саўгасаў, поруч з уборкай, безадкладна ажыцьцяўляць адгрузку бульбы па дзяржаўных закупах. За ўвесь час існаваньня калгаснай сыстэмы зь Беларусі бульба адгружаецца Ленінграду й іншым паўночным раёнам. Адгрузка бульбы ўважаецца важнай палітычна-гаспадарчай працай райкомаў, абкомаў і ЦК КП Беларусі. Зацяжка адгрузкі бульбы прыносіць калгасам шмат клопатаў і вялікай працы. Таму пастанова патрабуе выканаць адгрузку паўночным раёнам не пазьней 5 кастрычніка, а ўборку — не пазьней 15 кастрычніка.

Няма сумлеву, што ў гэтым годзе, як і ў мінулыя гады, нейкая частка пасеваў бульбы астанецца пад сьнегам. Як паведамляе газэта «Сельское хозяйство», ужо 22 верасьня на Беларусі і ў Прыбалтыцы ноччу назіраліся замаразкі.

Якія-ж прычыны таго, што бульба, гэтая надзвычайна карысная й на Беларусі ўрадлівая прадуктовая культура, страціла сваё значаньне ў калгасах і саўгасах? Якія стравы маюць замяніць бульбу Беларусу? Толькі неразумнаю воляю Хрушчова на калгасных і саўгасных палёх Беларусі пасевам бульбы створаныя няспрыяльныя ўмовы. «Царыца палёў» — кукуруза адабрала ад бульбы лепшыя землі й так патрэбнае ўгнаеньне. На Беларусі для кукурузы прымусова аднялі прысядзібныя вучасткі ад калгасьнікаў. Бульбу сеюць без арганічнага ўгнаеньня на землях, якія астаюцца пасьля пасеваў кукурузы, цукровых буракоў, лёну, махоркі.

З гэтых прычынаў ураджай бульбы катастрафальна штогод зьніжаецца й ніякія пастановы камуністычнага савецкага кіраўніцтва ня будуць мець посьпехаў, пакуль бульба ня займе на палёх Беларусі адпаведнага ёй месца.

**В. Б.**

шым літоўскім ці іншым сэпаратызьме. Агінскаму й Любэцкаму прыпісвалі зраду, што яны ўзнаўляюць думку Касакоўскіх, каб вунію Літвы з Польшчай падмяніць вуніяй Літвы з Расеяй. У дзейнасьці групы Агінскага Палякі бачылі «дарогу блудную й згубную», якая вяла да перакрэсьленьня польскага пытаньня на ўсходзе ды падрыхтоўвала грунт да ляяльнасьці жыхароў Літвы цару, да разьбіцьця адналітага «польскага» фронту барацьбы за вызваленьне.

### Агінскі ня падае духам

Міма няздэцыдаванасьці й неакрэсьленасьці Аляксандра ў «літоўскім» і «польскім» пытаньнях, міма нарастаньня ў Ліцьве (Беларусі) сымпатыяў да Напалеона з хвілінай канцэнтрацыі войскаў на расейскім пагранічны, Агінскі й яго група ня падаюць духам і ўсё вераць, што ўдасца хоць часткова зьдзейсьніць свае пляны.

Вясна 1812 г. была пачаткам вялікіх ваенных падрыхтаваньняў абедзьвюх старон. Расея бязь ніякіх палітычных камбінацыяў хацела проста правесьці мабілізацыю насельніцтва нашых зямель. Быў у гэтай справе выдадзены ў Пецярбурзе адумысны загад камандуючаму расейскай арміяй у Вільні ген. Барклі-Дэ-Толяму. Гэта рэальны доказ, на колькі вартыя былі царскія пляны ў «літоўскай» справе. Да мабілізацыі не дайшло дзякуючы інтэрвэнцыі кн. Любэцкага, які пісаў цару, «што ў тутэйшых губэрнях пануе такі настрой, што ўсе ракруты будуць на старане ворага; да кажнага зь іх трэба было-б прыдзяліць стоража, інакш адбудзецца масавае пераходжаньне на бок няпрыяцеля» (Русск. стар. XXI, 631).

Канцэнтрацыя расейскіх войскаў на нашых землях выклікала апрavізацыйныя цяжкасьці й нелады між камандаваньнем і мясцовай адміністрацыяй. Становішча гэта выкарыстала група Агінскага дзеля пераняцьця ініцыятывы ў свае рукі. Любэцкі падрыхтаваў праект аб арганізацыі апрavізацыі мясцовай адміністрацыяй. Праект гэты ў цэласьці ня быў прыняты, але на яго груньце створаны Камітэт Галоўны ў Вільні, якому падпарадкаваліся губэрнскія і павятовыя камітэты. У Галоўны Камітэт увайшлі Любэцкі, Ваўрэцкі і Плятар.

Сучасьнікі закідалі кн. Любэцкаму калябарацыю з расейскай арміяй супраць паходу Напалеона. Навошта трэба было наладжаць апрavізацыю варожай расейскай арміі? Але ўся гэтая справа не такая простая. У канцы красавіка 1812 г. сам цар Аляксандар прыехаў у Вільню, а 12 травеня прыняў кн. Любэцкага ў сваёй галоўнай гасподзе. У гутарках цар не аднекваўся ад пляну Агінскага, наадварот, прасіў далей супрацоўнічыць «дзеля заканчэньня таго, што было там шчасьліва пачата» (словы цара).

У групе Агінскага жылі надзеі, што вось цяпер цар у Вільні, хто ведае, а можа абвесьціцца Вялікім Князям Літоўскім ці Каралём Польскім. Агінскі радзіў, каб быць прыгатаваным на падобную эвэнтуальнасьць. Літва ня можа быць няпрыгатаваная. І вось апрavізацыйныя камітэты з галоўным камітэтам у Вільні мелі быць галоўным шкілетам новай эвэнтуальнай палітычнай арганізацыі, якая змагла-б пераключыцца з апрavізацыі і на іншыя заданьні. Любэцкі навет падрыхтаваў быў праект царскай праклямацыі польскага каралеўства ў Вільні.

Сустрэўшыся зноў з царом у Вільні на пачатку чэрвеня 1812 г., калі вайна вісела ў паветры, гутаркі ня мелі практычных праблемаў. Цар сказаў тады Любэцкаму, што навал працы і недахоп часу не дазволіў яму абвесьціць «незалежнасьці» Літвы, а цяпер мусіць выехаць у прыфрантовыя гасподы. Любэцкі стаўся царскім спадарожнікам, каб сьцерагчы пляну Агінскага, але ня многа гэта памагло. Група Агінскага разьбілася. Пачалася стаўка на Наполеона. Адыйшлі такія верныя прыяцелі, як Казімер Плятар, а ворагі выдзяленьня Літвы, як Чартарыскі, Навасільцаў, вялікі кн. Канстанцін узьнялі кампанію перад царам, каб ня важыўся выдзяляць Літвы, бо там няма ніводнага знатнейшага чалавека, які гэтую справу падтрымоўваў-бы, а тыя, што яе вядуць, хочуць за ўсякую цану дасягнуць свае мэты, без аглядкі на посьпехі Расеі.

Так надыйшоў чэрвень 1812 г., а зь ім і паход Напалеона на Расею. 12(24) чэрвеня 1812 г. францускія войскі перайшлі Нёман і ў маланкавым паходзе ськіраваліся на Вільню. Наіўны цар яшчэ ў гэтым мамэньце думаў за пустыя словы купіць прыхільнасьць Палякаў. Ён пасылаў палк. Толя да кн. Пянятоўскага, каб той зрадзіў Напалеона і перайшоў на царскую старану. Але Панятоўскі на гэта не згадзіўся.

З царом падаўся на ўсход Агінскі, Любэцкі і некаторыя іншыя супрацоўнікі. У Ліцьве запанаваў нябывалы энтузіязм. 16 чэрвеня ст. ст. Напалеон уступіў у нашую сталіцу, у Вільню ды абвесьціў маніфэст аб утварэньні Вялікага Княства Літоўскага...

Уваходзячы ў Вільню, Напалеон сустрэў дэлегацыю з Габрыелям Агінскім на чале. Напалеон тады сказаў: «Пабачым, пане Агінскі, хто лепш выйдзе, ці Вы ў мяне, ці Ваш дзядзька (Міхал Агінскі) у Аляксандра». Так скончылася акцыя й дзейнасьць Агінскага й яго групы.

### Некаторыя вывады

І так мы прагледзелі галоўныя этапы царскай палітыкі ў часе перад паходам Напалеона на Расею ў 1812 г., а разам з гэтым і сутнасьць плянаў Агінскага што да адбудовы Вялікага Княства Літоўскага, злучанага асабовай вуніяй з Расеяй.

У польскай літаратуры (Нямцэвіч, Скарбэк, Смолька, Аськазы і інш.) выказваецца пагляд, што цар Аляксандар І быў хітрым лісам і вадзіў за нос рознымі прыманкамі так Палякаў зь лягеру Чартарыскага, як і Ліцьвіноў (Беларусаў) зь лягеру Агінскага.

Бяссумлеву, Аляксандар І кіраваўся перш за ўсё расейскімі інтарэсамі й настроямі расейскай нацыяналістычнай прыдворнай партыі, якая забіла цара Паўла І ды адхіліла Спэранскага. Сам Аляксандар І, выхаваны ў духу заходня-эўрапэйскага сьветапагляду, быў староньнікам не сьляпой сілы і гвалту, але ўступкаў і талеранцыі, чым спадзяваўся дасягнуць больш, як самой грубой сілай. На гэта нямала канкрэтных ягоных дзеяньняў перад і пасьля перамогі над Напалеонам, калі быццам ён знаходзіўся на вышыні магутнасьці.

**(Далей будзе)**

# Дэманстрацыі супраць Хрушчова ў Нью Ёрку

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне прыймала актыўны ўдзел ува ўсіх дэманстрацыях, ладжаных у Нью Ёрку арганізацыямі паняволеных народаў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы супольна з амэрыканскімі арганізацыямі супраць прыезду Хрушчова ў Амэрыку.

Ня гледзячы на заклікі Прэзыдэнта Айзэнгаўэра прыняць з належнай пашанай запрошанага ім гасьця, Хрушчоў быў прыняты ў Нью Ёрку вельмі холадна з боку ўсяго амэрыканскага грамадзтва ды, хаця й «мірнымі», але стыхійнымі дэманстрацыямі групаў паняволеных народаў. Дзе толькі Хрушчоў не павярнуўся, ён мог заўсёды бачыць дэманстрантаў з плякатамі, асуджаючымі савецкі імпэрыялізм, прымусовую русыфікацыю паняволеных народаў ды хвальшывую палітыку суіснаваньня.

Аснаўных дэманстрацыяў адбылося некалькі. I так 17 верасьня вечарам перад гатэлям «Асторыя», дзе ладзілі Хрушчову прыняцьце сябры Эканамічнага Клюбу Нью Ёрку, адбылася першая такая дэманстрацыя. У гэтай дэманстрацыі беларуская група несла плякаты з надпісам «Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне асуджае прысутнасьць панявольніка ў ЗША», «Хрушчоў, дзе падзеў 5 мільёнаў Беларусаў?», «Хрушчоў, Беларусь гэта не Арызона», «Хрушчоў, чаму замяніў беларускія цэрквы ў клюбы?».

18 верасьня папаўдні адбылася ўзноў масавая дэманстрацыя перад будынкам Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, дзе Хрушчоў ахвяроўваў свой плян «разьзбраеньняў». Гэтая дэманстрацыя была не такой ужо «мірнай», бо паліцыйная лінія была прарваная й вытварылася вялікая суматоха.

Абедзьве дэманстрацыі былі належна абстаўленыя прадстаўнікамі прэсы й фотарэпартэрамі, якія фатаграфавалі й фільмавалі рух дэманстрантаў, а такжа запісвалі галасы пратэстаў і зьмест надпісаў на плякатах. Таго-ж дня вечарам у тэлевізіі ўсе маглі бачыць беларускія плякаты, якія знаходзіліся на першым пляне, як і назаўтрае ў ньюёрскіх газэтах.

20 верасьня ў вялікай залі Карнэдж Гол у Нью Ёрку адбыўся масавы мітынг пад лёзунгам «Мы адказваем Хрушчову», ладжаны арганізацыямі паняволеных народаў. На сцэне першым стаяў беларускі нацыянальны сьцяг, а ў прэзыдыюме сядзелі прадстаўнікі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня із старшынёю Галоўнае Ўправы БАЗА К. Мерляком.

**Тутака трэба адцеміць, што, ня гледзячы на ранейшую дагаворанасьць, прадстаўнікі сатэлітных краінаў не хацелі, каб сьцягі паняволеных народаў Савецкага Саюзу стаялі на сцэне разам зь іхнымі сьцягамі. Украінцам удалося хутка адваяваць сваё месца, але Беларусы й Казакі не маглі дабіцца гэтага адразу, напасьледак, перад адкрыцьцём мітынгу старшыня Канфэрэнцыі сатэлітных краінаў кс. Я. Балькунас сказаў,** што прадстаўнікі паняволеных народаў Савецкага Саюзу могуць на собскую адказнасьць паставіць свае сьцягі, як распачнецца мітынг, але, нажаль, няма для гэтых сьцягоў падставак. Дык калі распачаўся мітынг, беларускі й казацкі сьцягі былі вынесеныя на сцэну, і іх трымалі жывыя людзі ўвесь час мітынгу, прыцягваючы да сябе ўвагу прысутных. Вельмі й вельмі сумна, што прадстаўнікі паняволеных бальшавікамі сатэлітных краінаў хрушчоўскім спосабам хочуць змагацца з Хрушчовам.

Між іншымі прамоўцамі на мітынгу быў кантрэсмэн Рэй Мадэн, які сказаў вельмі гарачую прамову, асуджаючы прысутнасьць Хрушчова ў Амэрыцы й патрабуючы ад Прэзыдэнта, каб ён у гутарках з савецкім галаваром высунуў справу вызваленьня народаў, паняволеных расейскім камунізмам. Напасьледак была прынятая рэзалюцыя, тэкст якой ніжэй зьмяшчаецца.

**А. Груда**

**Р Э З А Л Ю Ц Ы Я**

**прынятая на масавым мітынгу — «МЫ АДКАЗВАЕМ ХРУШЧОВУ» — склікаными Амэрыканцамі паводля паходжань ным Амэрыканцамі паводля паходжань-Амэрыканскімі Прыяцелямі Паняволен ных Народаў у нядзелю 20-га верасьня 1959 г. ў Карнэдж Гол, Нью Ёрк Сіты:**

ДЗЕЛЯ ТАГО, што Задзіночаныя Штаты Амэрыкі заўсёды былі сымбалем надзеі для ўсяго чалавецтва й іхныя людзі бесьперапынна змагаліся і ўміралі за справу свабоды й справядлівасьці; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што паняволеныя народы чакаюць ад Задзіночаных Штатаў — гэтай цытадэлі людзкой свабоды — праваднiцтва ў дасягненьні іхнага вызваленьня й незалежнасьці, а так-жа ў вадnаўленьні іхных рэлігійных свабодаў і іхных індывідуальных чалавечых правоў; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што Савецкая Расея пасьля 2-ой Сьветавой Вайны зрадліва захапіла й паняволіла дзевяць старажытных і незалежных народаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы: Альбанію, Баўгарыю, Чэхаславаччыну, Эстонію, Вугоршчыну, Латвію, Летуву, Польшчу і Румынію, як і Ўсходнюю Нямеччыну; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што гэтыя захопы былі патаптаньнем многіх савецкіх пактаў узаемнай помачы з многімі з гэтых народаў; і зламаньнем пасьляваенных мірных дагавораў і пагадненьняў, якія гарантавалі свабодныя выбары; і зламаньнем Дэклярацыі Задзіночаных Нацыяў, падпісаных Савецкім Саюзам 1-га студзеня 1942 году, якая пацьвярджала Атлянтычную Хартыю і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што імпэрыялістычная палітыка Савецкага Саюзу таксама імкнулася да паняволеньня й пазбавіла нацыянальнай незалежнасьці народы Армэніі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Ідэль-Уралу, Казакіі, Туркестану, Украіны й іншых народаў унутры Савецкага Саюзу; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што Мікіта Хрушчоў, будучы ў ролі сталінскага эмісара, асабіста адказны за морд сотняў і тысячаў Украінцаў у 1937-39 гг., як і за дэпартацыі іншых сотняў і тысячаў у Казахстан і Сібір, дзе яны сталіся нявольнікамі й сыстэматычна былі русыфікаваныя; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што Хрушчоў, як правая рука Сталіна, зьяўляецца віноўнікам масавых дэпартацыяў народаў балтыйскіх дзяржаваў у 1941 і пазьнейшых гадох; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што Хрушчоў, як першы сябра г. зв. «калектыўнага кіраўніцтва», быў беспасярэднія адказным за жахлівае здушэньне паўстаньня ў Усходняй Нямеччыне ў чэрвені 1953 году й нялюдзкую разьню Украінцаў і іншых нявольнікаў у лягерах нявольніцкай працы ў Варкуце, Карагандзе, Мардовіі й Тайшэту; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што на загад Хрушчова й пад кіраўніцтвам Серава пракацілася новая хваля сталінскага тэрору пачынаючы ад мінулага лета супраць румынскага народу; і што савецкія войскі ўсё яшчэ кантралююць Румынію ня гледзячы на запэўненьні Хрушчова аб адваротным перад Асамблеяй Задзіночаных Нацыяў; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што савецкая інтэрвэнцыя ў Вугоршчыне ў 1956 г. была асуджаная Задзіночанымі Нацыямі ў дзевяцёх рэзалюцыях, прынятых вялізарнай бальшынёй, якія поўнасьцю ігнаруюцца Савецкім Саюзам; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што Мікіта Хрушчоў, сучасны правадыр расейскай камуністычнай імпэрыі й фактычны кіраўнік сьветавага камуністычнага руху, імкнецца да поўнага зьнішчэньня чыста дэмакратычных свабодаў і спосабу жыцьця:

ДЗЕЛЯ ГЭТАГА МЫ АДНАГАЛОСНА ПАСТАНАЎЛЯЕМ:

1. лічыць адведзіны Хрушчова Задзіночаных Штатаў шкоднымі для нацыянальных інтарэсаў Задзіночаных Штатаў і для справы ўнівэрсальнай свабоды;

2. заклікаць нашых сяброў Амэрыканцаў байкатаваць усе і ўсякія імпрэзы ў гонар Хрушчова, унікаць усякіх прывітаньняў яго, за выключэньнем рабленьня перашкодаў для ягоных авацыяў, у выпадку патрэбы;

3. апэляваць да Прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў, каб у гутарках з савецкім дыктатарам ён ня толькі пацьвердзіў наважанасьць Амэрыканцаў цьвёрда трымацца нашых абяцаньняў для мужных людзей Бэрліну, але каб ён высунуў праблему паняволеных народаў у духу Рэзалюцыі аб абвешчаньні «Тыдня Паняволеных Народаў», якая была аднагалосна прынятая Кангрэсам і праклямаваная Прэзыдэнтам;

4. Напасьледак, каб Прэзыдэнт запратэставаў супраць паняволеньня народаў перад Хрушчовам, іхным панявольнікам, пакуль ён тутака, і запатрабаваў — а) выкананьня савецкіх дагавораў у справе нацыяў перад тым, пакуль будуць заключаныя новыя пагадненьні; б) вываду ўсіх савецкіх войскаў з паняволеных краінаў; в) вольных і бесьперашкодных выбараў ува ўсіх акупаваных краінах пад кантроляй ЗН у мэтах загарантаваньня нацыянальнага самавызначэньня.



**УВАГА! УВАГА! УВАГА!**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны» падае да ведама тым чытачом, якія з тых ці іншых прычынаў ня могуць карыстаць з ганаровых паслугаў нашых прадстаўнікоў і кальпартэраў, што газэту «Бацькаўшчыну», а таксама ўсе кніжныя выданьні «Бацькаўшчыны» можна атрымоўваць беспасярэдня з Адміністрацыі «Б-ны», пераслаўшы адпаведную грашовую належнасьць. Банкавае конта й цана падпіскі «Б-ны» стаіць пры загалоўку газэты. Цана кніжак, выдадзеных выд. «Б-на», час-ад-часу падаецца на апошняй бачыне нашае газэты.**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны»**

## VII Гадавы Зьезд Беларуска - Амэрыканскага Акадэмічнага Таварыства

**Чарговы Зьезд БААТ адбыўся ў суботу 5-га верасьня 1959 г. у прыгожым будынку «Агора Голл» Датлес Калэджа, у Нью Брансвіку, Н. Дж. Сход адчыніў старшыня Гал. Управы БААТ Юрка Станкевіч. У Прэзыдыюм Зьезду былі выбраныя: др. Ул. Набагез — старшынёю й Людміла Войтэнка сакратаркай.**

**Удзельнікі 7-га Зьезду БААТ уважна выслухалі прывітаньні сп. К. Мерляка, ад Гал. Управы БАЗА, пісьмовыя прывітаньні ад Яго Высокапраасьвяшчэнства Ўладыкі Васіля, ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, ды іншыя.**

**Апрача больш важных пунктаў сходу, шырака дыскутавалася далейшая дзейнасьць арганізацыі, склад яе сяброўства, ды былі ўнесены і прынятыя агульным зьездам некаторыя папраўкі да статуту БААТ.**

**У рэзультаце галасаваньня ў новую Галоўную Ўправу БААТ былі выбраны: — В. Русак — старшыня, Ю. Станкевіч — заст. старшыні, А. Кароль — сакратар, Людміла Войтэнка — скарбнік, А. Несьцяровіч — сябра Ўраду. У Рэвізыйную Камісыю й Сяброўскі Суд увайшлі: — др. Ул. Набагез, А. Кудасаў і В. Станкевіч.**

Адразу пасьля заканчэньня агульнага зьезду нова-выбраны Галоўны Ўрад БААТ зрабіў паседжаньне, на якім апрацаваў плян працы й прыняў некаторыя пастановы, зьвязаныя зь дзейнасьцю арганізацыі на бліжэйшую будучыню.

Новы Ўрад ужо прыступіў да працы, і трэба спадзявацца, што гэтым разам спрычыніцца да ажыцьцяўленьня Акадэміцкага Таварыства. Заклікаем усіх сяброў Таварыства да цеснага супрацоўніцтва з новым Гал. Урадам, якое прынясе карысьць як нашай арганізацыі, гэтак сама й усяму беларускаму грамадзтву. У каго б'ецца запраўды беларускае сэрца, таму няма патрэбы прыпамінаць пра абавязкі, якія ён павінен выканаць перад арганізацыяй, да якой належыць.

**Зьезд правёў свае нарады ў сьпешным парадку, каб гэтым самым даць магчымасьць сябром прыняць удзел у VIII-м Зьезьдзе ЗБМА, які адначасна адбываўся ў Саўт Рывэры, Н. Дж.**

**21-га верасьня 1959 г. А. Кароль**

## Падзяка

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква гораду Адэляйда ў Паўдзённай Аўстраліі гэтым складае шчырую падзяку Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэнд, айцу Мітрафорнаму Пратаярэю Мікалаю й усім вернікам за патрытычна-хрысьціянскае адкліканьне й ахвяраваньне на лісту пабудовы БАПЦарквы ў Паўдзеннай Аўстраліі сумы 123 даляраў.

Для нас Беларусаў, якія сілай лёсу апынуліся сяньня ў волялюбнай Аўстраліі, нашая БАПЦарква, наш собскі Божы Дом будуць ня толькі прыпынішчам духовага адпачынку, але й куточкам пакінутае роднае Беларусі. Маючы гэта на ўвазе, тым больш мы ацэньваем Вашую ахвярнасьць, Ваш гэты добры пачын, які ёсьць жаданым прыкладам таго, як можна любіць свой народ і ягоныя традыцыі. Вашыя прозьвішчы будуць упісаныя ў залатую кнігу гісторыі пабудовы БАПЦарквы ў Паўдзённай Аўстраліі.

Выносячы яшчэ раз Вам шчырую падзяку, просім нашага Бога Ісуса Хрыста, каб Ён захаваў Вас пры жыцьці й у радасьці злажэньня ахвяраў на Сьвятую справу.

Вашыя браты ў веры Хрыстовай і ў крыві Беларускага народу

Адэляйда, 15. 9. 1959 г.

Скарбнік Парахвіі. Настаяцель Прыходу

**У. Акавіты Пратаярэй М. Шчурко**

# Зь беларускага жыцьця

## Беларускі Культурна-Рэлігійны Тыдзень у Чыкаго

У днях ад 29 жніўня да 8 верасьня 1959 г. адбыўся ў Чыкаго і ў Лаел (каля Чыкаго) Беларускі Культурна-Рэлігійны Тыдзень з багатай і разнастайнай праграмай. Мэтай гэтага першага культурна-рэлігійнага беларускага зьезду было вывучэньне розных пытаньняў з нашага культурна-рэлігійнага жыцьця ды паглыбленьне ідэі нацыянальнага й рэлігійнага адзінства Беларускага народу.

Тыдзень пачаўся Вячэрняй у Беларускай Царкве Хрыста Спаса ў Чыкаго 29 жніўня, пасьля чаго адбылося фармальнае адкрыцьцё Тыдня, выкананае а. Уладзімерам Тарасэвічам у залі сярэдняй школы сьв. Алёйзага. У наступны дзень, у нядзелю 30 жніўня, з нагоды зьезду адбыліся беларускія ўрачыстасьці ў манастыры ў Лаел, куды зьехалася больш за 130 нашых суродзічаў абодвых нашых веравызнаньняў: праваслаўных і каталікоў, каб у супольнай маліцьве прасіць Бога хутчэйшага зьяднаньня нашага народу ды ягонага вызваленьня зь няволі. Сьвятая Служба адбылася ў 10—12 гадзінах, пасьля якой адбыўся супольны абед у сталовай манастыра з прамовамі многіх удзельнікаў. А 3-й гадзіне праф. др. Ян Тарасэвіч чытаў першую лекцыю з агульнага цыклю рэфэратаў на тэму «Беларусы ў сьвятле праўды». Дакладчык у сваім вельмі цікавым і глыбокім рэфэраце разглядзеў законныя шляхі беларускага народу да разьвіцьця сваёй нацыянальнасьці, да вывучэньня сваёй гісторыі, мовы, да свайго дзяржаўнага й маральнага адраджэньня з пункту гледжаньня хрысьціянскай навукі.

Пасьля дакладу ўдзельнікі Тыдня правялі вольны час на адпачынку й сяброўскіх бяседах у раскошным парку манастыра. Дзень закончыўся супольнай вячэрай усёй беларускай грамады ў студэнцкай залі тамашняга каліджу.

У панядзелак 30 жніўня ў рамах Тыдня чытаў рэфэрат у Чыкаго ў залі сьв. Алёйзага сп. В. Пануцэвіч на тэму «Пачаткі Хрысьціянства на нашых землях да часоў Усяслава». Дакладчык прааналізаваў з падрабнымі дакладнасьцямі, ведамымі сучаснай навуцы, пачаткі хрысьціянізацыі з канца X веку на сярэдзіну IX, і зьвязваючы ягонае разьвіцьцё зь дзейнасьцю славянскіх апосталаў Канстанціна й Мятодага й іх вучняў, а так-жа з Апостальскім Пасадам на фоне змаганьня так Усходу й Захаду, як і нашых зямель зь Кіеўскай Русяй. Дакладчык адхіліў цэлы рад гістарычных легендаў, як напр. легенду аб Рагнедзе, аб хрышчэньні Русі, аб Тураўскім Сьвятаполку ды паглыбіў змаганьне Брачыслава з Русяй і Яраславам весткамі аб завалоданьні ім Кіева ў 1022 г. Рэфэрат быў сутрэты вялікай зацікаўленасьцю слухачоў, што выклікала патрэбу выданьня яго асобнай брашурай.

**На трэйці дзень Тыдня чытаў даклад праф. Мікола Куліковіч «Музыка й мастацтва на Беларусі», даючы агляд разьвіцьця музычнага мастацтва ў нашым народзе ды падкрэсьліваючы ягоныя нацыянальныя асаблівасьці, як праяву нацыянальнай і этнічнай нашай маналітнасьці.**

**У наступных днях нашыя лекары: др. А. Занковіч і др. Б. Грабінскі чыталі цікавыя лекцыі з галінаў сваёй спэцыяльнасьці: др. А. Занковіч на тэму «Сяньняшні пагляд на істоту й лячэньне рака», а др. Б. Грабінскі — «Прыродныя аздараўляючыя крыніцы на Беларусі». Пасьля дакладаў адбылася жывая абмена думак.**

З асабліва цікавым дакладам выступаў 3 верасьня сп. Ч. Будзька «Праблемы беларускай гісторыі». Ён закрануў балючую й істотную праблему нашай гісторрыі, пайменна, яе хвальшаваньне перш за ўсё расейскай гісторыятрафіяй. Дакладчык даў нямала прыкладаў на тое, як ад 18 веку Масква высіляецца ў гэтым хвальшаваньні, ствараючы міт аб адзінароднасьці «Русі» у мінуўшчыні й сучаснасьці. Гэты міт цяпер прадаўжае чырвоная Расея зь няменшай зацятасьцяй, як і перад рэвалюцыяй. Заданьнем маскоўскіх гісторыкаў было і ёсьць перакананць Беларусаў у праўдзівасьці іх хвальшаваньня, а заданьнем акупацыйнага апарату было й ёсьць «выхаваць» наш народ у духу вялікадзяржаўніцкай расейскай ідэялёгіі, у якой няма месца на самастойнасьць Беларусі. Дакладчык між іншым шырэй спыніўся над спробамі старога хвальшаваньня нашай гісторыі яшчэ Кіеўскай летапіснай гістарыяграфіяй, над так званай легендай аб Рагнедзе і быццам дынастычнай адзінасьці старой Русі. Дакладчык давёў поўную неабаснаванасьць легенды аб Рагнедзе, а таксама адхіліў спробу навязаць дынастычнае адзінства крывіцкіх і «рускіх» зямель.

Пятніца й субота 4 і 5 верасьня былі асабліва працавітымі днямі Тыдня. Апрача праграмовых дакладаў др. П. Гайдзеля «Мае ўражаньні зь пяцёх унівэрсытэтаў» і сп. Веры Рамук «Жанчына ў беларускай гісторыі», былі надзвычайныя даклады ньюёрскіх гасьцей: праф. Антона Адамовіча й нашай паэткі Натальлі Арсеньневай.

Др. П. Гайдзель падзяліўся сваімі ўражаньнямі з сваіх студыяў мэдыцыны ў Вільні, Віцебску, Магілёве, Марбургу, Аўстраліі ў апошніх 20 гадох, даючы параўнаньне розных навуковых сыстэмаў: польскай, савецкай, нямецкай і аўстралійскай. Сп. Вера Рамук накрэсьліла вобраз беларускай жанчыны ў нашым народзе, падчыркваючы яе маральные вартасьці. Праф. А. Адамовіч расказаў аб працы й дзейнасьці Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня, аб Мюнхэнскім Інстытуце Вывучэньня СССР, аб Радыі «Вызваленьне» ды навуковых беларускіх дасягненьнях у беларускай сэкцыі Інстытуту, а паэтка Натальля Арсеньнева падзялілася з слухачамі сваімі аўтабіяграфічнымі весткамі, як яна перажывае й творыць новыя вершы й паэмы. Праф. А. Адамовіч ілюстраваў апавяданьні паэткі чытаньнем ейных твораў. Выступ дарагіх гасьцей выклікаў вельмі мілае ўражаньне на прысутных.

У тую-жа сыботу 5 верасьня меў месца ў аўдыторыі жаночай сярэдняй школы пры Беларускай Царкве ў Чыкаго вялікі канцэрт з удзелам ведамай нашай сьпявачкі Надзеі Градэ (сопрано) і тэнара Сьцяпана Віціка. У прграме былі клясычныя й народна-беларускія творы розных кампазытараў. Акампаньяваў праф. М. Куліковіч. Канцэрт стаяў запраўды на высокім мастацкім узроўні ды выклікаў узьнятыя перажываньні перапоўненай аўдыторыі.

У нядзелю 6 верасьня пасьля Божай Службы адбыўся банкет для ўдзельнікаў Тыдня ў залі Беларускай Царквы. Тут з прамовамі выступала шмат удзельнікаў, падчыркваючы культурнае й рэлігійнае значэньне Тыдня. Адсьпяванае было «Многае лета», «Сто гадоў» усім спрычыніўшымся да арганізацыі Тыдня, а таксама прысутным ньюёрскім гасьцём. У канцы банкету былі прынятыя шматлікія рэзалюцыі. З пасярод іх на асаблівую ўвагу заслугоўваюць: 1) каб Тыдзень культурна-рэлігійных студыяў лічыць сталай інстытуцыяй у Чыкаго, і кажны год адбываць зьезды 4 ліпеня; 2) каб Тыдзень кажны год распрацоўваў найбольш жыцьцёвыя праблемы беларускай эміграцыі й беларускага народу, а на наступным зьездзе навукова распрацаванае было пытаньне беларускай моладзі на эміграцыі й яе выхаваньня ў нацыянальнай ідэі; 3) каб выдаваць штогод Працы Тыдня ды іншыя публікацыі ў справах культурна-рэлігійнага вывучэньня нашай мінуўшыны й сучаснасьці.

**Тыдзень закончыўся 7 верасьня вясёлым пікнікам у Лаея.**

**Розныя перашкоды не дазволілі многа каму з розных мясцовасьцяў па-за Чыкаго прыняць удзел у працах Тыдня, сярод якіх былі дакладчыкі, як сп. А. Шукелайць і др. Ст. Грынкевіч. Так яны, як і многія іншыя асобы, прыслалі свае прывітаньні й найлепшыя пажаданьні Тыдню.**

**З нагоды Тыдня Чыкагскі архіяпіскап Мэер прыняў беларускую дэлегацыю ды пераслаў найлепшыя пажаданьні ды багаславенства ўдзельнікам Тыдня.**

**Тыдзень Беларускіх Культурна-Рэлігійных студыяў у Чыкаго быў запраўды вялізарным крокам наперад у працах беларускай эміграцыі ў Амэрыцы, і варожыць, што культурнае жыцьцё ў Амэрыцы сярод нашых суродзічаў атрымае новы ўздым. Дай Божа!**

**Наглядальнік**

**Ш У К А Ю Ц Ь . . .**

Брата Мікалая С і д о р ы к а, з Навасёлак, Кастравіцкай вобласьці вывезенага Немцамі ў 1942/3 г. шукае сястра Вера С к о к - С і д о р ы к зь дзяцьмі Сяргеям, Любай, Міхалам і Зінай. Пісаць на едрыс рэдакцыі.




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**Р Э Д А Г У Е К А Л Е Г І Я**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**